Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



## КАМУНІКАТ Но.1 (84 ад 1990), ТРАВЕНЬ, 2005

---

### РАЗВАЖАНЬНІ Й УСПАМІНЫ

Кожны год у жыцьці чалавека, грамадзтва ёсьсць важным , каштоўным, як і самое жыцьцё. Прысьнілася мне мая сястра, Валянціна Пашкевіч, што летась 25 сакавіка памерла. І ўва сьне яна мне напамінае: «Запісвай пра ўсе падзеі, што адбываюцца ў берларускім жыцьці. Усё павінна быць запісана!»

2004 год быў памятным, для мяне, тым, што ў гэтым годзе памерла мая дарагая сястра, памёр сябра Янка Баран, былі 50-я ўгодкі - залаты юбілей - беларускай сэкцыі радыя «Вызваленьне»-«Свабода», 15-я ўгодкі Таварыства Беларуске Мовы. Пра ўсё гэта мы ў Камунікатах запісалі, а пра 26-ю Суатрэчу БПА ў Таронта - не запісалі...

А 26-я Сусытрэча БПА была знамянітай ўжо таму, што яна запачаткавала другое паўстагодзьдзе Сустрэчаў БПА., так як 1-я Сустрэча БПА у Канадзе над вадаспадам Ніягара запачаткавала першае поўстагодздзе Сустрэчаў.

26-я Суастэча БПА ў Таронта дазойліва наводзіць мне на памяць 1-ю й 10-ю Сустрэчы БПА, што адбываліся ў 1952 і 1972 гадох у Канадзе.

---

<u>З архіваў ЗБК падаем тут даслоўна запісы</u> тадышняе Старшыні Згуртаваньня Беларусаў Канады:

### <u>10-я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ, 1972.</u>

«20 год таму назад, на Купальле, на канадыйскім баку вадаспаду Ніягара, на поплаве пад адкрытым небам, сталі адна супраць другой групы беларусаў, адна з Канады, другая з ЗША. Праз часіну, якая выдавалася тады даўгой, стаялі яны моўчкі, узаемна на сябе пазіраючы. І гэтая нямая часіна сталася пачаткам ужо двацацьці гадовае традыцыі Сустрэчаў Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

І-я Сустрэча прысьвечана была <u>Янку Купалу.</u> Прыпадала яна на 10-ю гадавіну яго трагічнае сьмерці ў 1942 годзе. І тады ключавы даклад быў аб Янку Купалу. Меў яго цяперашні Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

Жук-Грышкевіч. Шмат хто з нас быў удзельнікам 1-ае Сустырэчы, але, нажаль, некаторыя зь іх да 10-е не дажылі...

Сяньня, пасьля 20-цёх год ласкавы лёс дазваляе нам адкрываць 10-ю Сустрэчу БПА. Ідэя, якой 10-я Сустрэча прысьвечана, выражае сілу жуыцьцяздольнасьці й творчасьці беларускага народу на працагу амаль поўтысячыгодзьдзя: Ад Скарыны праз Купалу й Коласа да нашых дзён - як прыгожа акрэсьліў яе праф. Антон Адамовіч»

Гаварыла на адкрыцьці 10-е Сустырэчы БНП др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады - беспасрэднага арганізатара - гаспадара 10-е Сустрэчы БПА, што адбылася 2-4 верасьня, 1972 г. у слаўным горадзе Таронта ў Канадзе..

«10-я Сустрэча адзначае 450-я угодкі друку ў Беларусі (на беларускай зямлі), 90-я ўгодкі ад нараджэньня Янкі Купалы й Якуба Коласа, ды 20-я ўгодкі Сустрэчаў БПА.... Паміж трома ўспомненымі гадавінамі йснуе лягічная пасьлядоўнасьць: Каб ня было Скарыны й залатое пары, ня было-б мо адраджэньня - Купалы й Коласа., каб ня было адраджэньня Купалы й Коласа, ці былі-б Сустрэчы БПА, ці была-б гэтая юбілейная?....

«10-я Сустрэча БПА мае на мэце задэманстраваць здольнасьць і **волю** беларускага народу **да жыцьця, росту й змаганьня** за свае чалавечыя правыу быць гаспадаром на сваёй зямлі. 10-я Сустрэча мае на мэце аддаць пашану памяці нашым нацыянальным волатам: Франьцішку Скарыну, Янку Купалу й Якубу Коласу. Наканец мае яна на мэце ўмацаваньне грамадзкіх, культурных і сяброўскіх сувязаў, ды нацыянальнае ўзгадаваньне-гартаваньне нашага шырокага грамадзтва й нашае моладзі.»

Гэткія мэты ставілі перад сабой арганізатары 10-е Сустрэчы Згуртаваньне Беларусаў Канады й Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне. Гэткія мэты й падыктавалі склад і характарт самое Сустрэчы.

Для беспасрэдных арганізатараў-гаспадароў - кіраўніцтва й сяброў ЗБК - 10-я Сустрэча БПА гэта не падзея двох-трох дзён. Гэта працэс, гэта інтэнсыўныя высілкі даўгіх месяцаў. 2-га й 3-га верасьня былі вынікам гэтага працэсу, экзаменам і паказьнікам на колькі Сустрэча апраўдала пастаўленыя перад ёю мэты й заданьні. І не разглядаючы тут працэсу , глянем на вынікі яго - на самыю 10-ю Сустрэчу БПА.

## Мейсца Сустрэчы

Мейсцам 10-е Сустрэчы быў ужо ня поплаў, а Беларускі Рэлігійна-Грамадхзкі Цэнтр - кватэра Галоўнае Управы й заля ЗБК, ды БАПЦарква

сьв. Кірылы Тураўскага.

Цёплай сонечнай ранічкай у суботу, 2-га верасьня, дзьверы Беларускага Цэнтру шырака адчынены. Над імі лёгкі вецярок узьвівае бел-чырвона-белыя й канадыйскія сьцягі. У залі Цэнтру на франтовай яе сьцяне пад Пагоняй між сьцягамі партрэт д-ра Ф. Скарыны , і абапал яго партрэтры ягоных пасьлядоўнікаў - Янкі Купалы й Якуба Коласа. Кампазыцыю завяршаюць два беларускія ручнікі ды на сцэне перад партрэтамі на стале «юбілейны» букет зь дзевяцьдзесяці белых, чырвоных і белых ружаў для Янкі Купалы й Якуба Коласа на дзевядзесятігодзьдзе ад іхнага нараджэньня..

450-я ўгодкі друку ў Беларусі падкрэсьлівае на правай сьцане залі выстаўка друкаў і гравюраў з Скарынавых кніг, з Літоўскага Статуту 1588, ды пазьнейшых віленскіх гравюраў з Граматыкі 1618 г. Выстаўку ачольвае Падуанскі партрэт Франьцішка Скарыны, Доктара сямі вызваленых ды лекарскіх навук, а навязвае яе да цяпершчыны запавет Скарыны для нас: «Каб мы ўсялякага труду й скарбаў для паспалітага дабра й айчыны свае не шкадавалі».

Рэшту сьцен залі й калідору займае выстаўка абразоў беларускае мастачкі з Канады, Івонкі Шыманец-Сурвіллы. Цэнтральнае яе мейсца займае й зьвяртае на сябе ўвагу партрэт Беларускі. Ня так партрэт, як сымбаль Беларускі зь яе супакоем, чарам і годнасьцьцю, што наводзіць на думку словы Купалы: «І пусьцілі яе супакоймую...» і «....не здалеюць. суды цёмнатворныя ёй спаганіць і вырваць душу». Але аб выстаўцы пасьля.

Зь левага боку залі стаяць засланыя белымі абрусамі сталы, а ззаду іх ад кухні даходзіць пах сьвежае кавы й яечні на скварках. Усё чакае на гасьцей. Першымі прыйшлі госьці з Сауц-Рывэру, што прыехалі яшчэ ўчора вечарам. Чакаем на аўтабус зь Нью Ёрку й Нью Джэрзі. Вось ён і ёсьць! Зрабілася людна, шумаа. цікава.... Прыяжджаюць самаходы з Клівэлянду, Дэтройту., Чыкага, Садбуры., Мантрэалю, Кінгстану, Лёнадану, Атавы. Ашавы і скуль толькі! Гаспадаром трэба хутка спраўляцца з разьмяшчэньнем гасьцей па кватэрах, каб управіцца да трэцяе гадзіны - Урачыстага Адкрыцьця Сустрэчы.

## Урачыстае адкрыцьцё 10-ае Сустрэчы БПА.

Старшыня суботняе праграмы, рэфэрэнт вонкавых дачыненьняў Галоўнай Управы ЗБК. маг. Янка Сурвілла просіць прысутных устаць для агульнага адсьпяваньня «Магутны Божа». «Дай спор у працы... учнкам нашым пашлі ўмалот!» - гэта ўсё, аб што мы тады малілі нашымі сэрцамі Бога. З гэтай малітвай у душы прамаўляла да ўдзельнікаў Сустрэчы старшыня Галоўнай Управы Згуртаваньня Беларусаў Канады, др. Раіса

Жук-Грышкевіч. Хвілінай маўчаньня прасіла яна усіх ушанаваць памяць тых., што былі ўдзельнікамі першай ды наступных Сустчаў, але да 10-е не дажылі: Сьв. пам. Чарапук-Змагара - аднаго зь міністраў першага Ураду Рады БНР, Гэнэрала Ф. Кушаля, опэрнае сьпявчкі Барбары Вержбаловіч, сябры ЗБК Мечыскава Рачыцкага, Нэлі Навіцкае - удзельнікі першае Сустрэчы, ды наступных Сустрэчаў: Сьв. пам. Архіяпіскапа Васіля, а. д-ра Пратаярэя Войтанкі, др-ра Ст. Грынкевіча, кампазытара Міколы Куліковіча, Язэпа Гладкага - удзельніка Усебеларускага Кангрэсу 1917 г. і іншых...

Прыпомніўшы прысутным аб мэтах і заданьнях Сустрэчы Старшыня ЗБК абвесьціла 10-ю Сустрэчу БПА, прысьвечаную 90-цігодзьдзю Янкі Купалы й Якуіба Коласа, ды 450-м угодкама друку на беларускай замлі, адкрытай.

Япіскап БАПЦ Уладыка Мікалай узьнёс да Усемагутнага малітву за памыснасьць і посьпех Сустрэчы, ды ўсіх нашых пачынаньняў на карысьць нашае вызвольнае справы..

Ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня вітаў Сустрэчу ягоны старшыня др. Расьціслаў Гарошка. Ад Беларускае Маладзёжнае Арганізацыі вітала яе старшыня спадарычня Раіса Станкевіч.

**«Ад Скарыны праз Купалу й Коласа да нашых дзён»**

Беспасрэдна пасьля адкрыцьця Сустрэчы Старшыня Сходу, маг. Янка Сурвілла перайшоў да наступнай часткі суботняе праграмы - рэфэратаў, прамоваў на тэмы Сустрючы. Першым прамоўцам быў праф. А. Адамовіч, які з своым сабе красамоўствам разьвіў перад слухачамі думку - сынтэзу 10-е Сустюы: Ад Скарыны праз Купалу й Коласа да нашых дзён. Паказаў, як Купала й Колас сваім жыцьцём і творствам пашыралі ідэалы Скарыны: праўду, любоў да роднага краю й заклік да службы для яго.

**450-я ўгодкі друку на беларусклай зямлі.**

Др. Вітаўт Тумаш у сваім зьмястоўным і вобразным рэфэраце прадставіў галоўныя культурна-нацыянальныя аспэкты сёлетніх угодкаў пачатку друку на беларускай зямлі Расказаў, як дзякуючы дзейнасьці БІНіМ у галіне Скарынаведы навуковы сьвет зьвярнуў увагу на д-ра Ф. Скарыну й дзякуючы гэтаму дайшло да знаходкі ў Капэнгазе ўнікальнага экзэмпляру Скарынавай **Малой Падатрожнай Кніжкі** ўключна з апошняй яе часткай Скарынавым **календаром.** На падставе гэтага календара ўдалося ўстанавіць, што першаю надрукаванаю Скарынам у Вільні кніжкай быў не Апостал (1525), а тры гады раней надрукаваная ў 1522 г. **Малая Падарожная Кніжка.** Вось таму сёлета, а не за тры гады,

як раней думалі навукоўцы, 450-я ўгодкі друку на беларускай зямлі й прыпадаюць. Скарынавая друкарня ў Вільні была першаю ня толькі ў Беларусі але й на прасторы ўсяе ўсходняе Эуропы, дык беларускі народ у важнай для росту культуры галіне быў першым сярод усіх іншых народаў усходняе Эўропы. Сёлетнія ўгодкі кідаюць і сьвятло на сучасную пару гісторыі беларускага народу.

«Найперш, угодкі зьвяртаюць увагу на той парадокс, што калыска беларускага друку, Вільня, палітычна-дзяржаўны, гаспадарчы й культурна-духовы цэнтр Беларусі на працягу болей паўтысячы гадоў. першы раз за ўсю сваю гісторыю фармальна сяньня адрэзана ад усяе іншае беларускае нацыянальнае тэрыторыі». Дакладчык падкрэсьліў , як важную ролю у гісторыі Беларусі адыйгрывала Вільня, што яна, а не Менск, была яе палітычнай і культурнай сталіцай, што адрэзаньне яе ад Беларусі гэта не Пракруставае адрэзваньне ног, а галавы, што пісаць гісторыю беларускага народу ды баз Вільні, гэта тоесамае, што пісаць гісторыю Грэцыі ды бяз Афінаў.

Сёлета ня толькі ўгодкі друку на Беларусі, але й 450-я ўгодкі першага беларускага друкаванага календара. І ў гэтай галіне беларускі народ быў піянерам, бо першы расейскі сьвецкі календар зьявіўся аж 180 гадоў пазьней. Сяньня-ж беларускі народ, які поўтысячы год таму назад быў піянерам у галіне каляндароў, у БССР свайго календара ў беларускай мове зусім ня мае, бо на гэта не дазваляе каляніяльная палітыка Масквы.

Свой даклад закончыў прамоўца верай, што з часам беларускі народ стане гаспадаром свае зямлі, тады пачаты 450 год таму д-рам Ф. Скарынам у Беларусі беларускі друк зможа дасягнуць свайго поўнага, усебаковага, свабоднага разьвіцьця згодна з культурна-духовымі патрэбамі народу.

## Супакой, лагоднасьць, прыгажосьць.

Пасьля двох рэфэратаў прыйшло адпружаньне, калі Стыаршыня ЗБК, Раіса Жук-Грышкевіч прадставіла прысутным аўтарку выстаўкі, мастачку Івонку Шыманец-Сурвіллу, якая здабыла асьвету ў галіне мастацкага малярства ў Парыжы. Апрача мастацкае здабыла яна асьвету й у галіне моваў, дзякуючы ведзе якіх, цяпер працуе ў Дзяржаўным Дэпартамэнце канадыйскага Фэдэральнага Ураду, як карэктар перакладаў з ангельскае мовы на францускую. У сваім мастацтве яна імкнецца выразіць тое, што хацела бы бачыць ў акружаючым яе сьвеце: нутраны спакой, лагоднасьць і прыгажосьць, як рэаскцыю на зло, нянавісьць, недавер, някультурнасьць.

## БІНІМ у Канадзе.

Пасьля кароткага перарыву старшыня БІНІМ у Канадзе др. Ян

Садоўскі зрэфэраваў дзейнасьць Інстытуту, які вось закончыуў пяць год свайго існаваньня. Апрача таго, што сябры БІНіМ у Канадзе бяруць сыстэматычна удзел у славянскіх канфэрэнцыях, ды Інстытут дзее, як сябра Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, найбольшым асягненьнем яго было сарганізаваньне восеняй 1971 г. паршае беларускаведнае канфэрэнцыі пры ўнівэрсытэце ў Кінгстане. У канфэрэнцыі бралі ўдзел ня толькі беларускія навукоўцы, але й украінскія й канадыйскія. Другой важнай падзеяй канадзкага БІНіМ гэта наладжаньне выстаўкі абразоў Івонкі Шыманец-Сурвіллы на гэтай Сустрэчы БПА.

## Клюб Пагоня.

Аб дзейнасьці Клюбу Пагоня, ды аб сваёй. як старшыні Клюбу й пісьменьніка расказаў сп. К. Акула, расказваў аб цяжкасьцях, ды наканец запрапанаваў, каб сп. В. Пануцэвіч зрэфэраваў, як стаіць справа з пісаньнем гісторыі Беларусі. Сп. В. Пануцэвіч забраў голас і прадставіў свае інфармацыі.

## Як арганізаваць Сустрэчы, каб усіх задаволіць.

Гэтую ўсё больш актуальную праблему разгледзіў у сваім рэфэраце др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Старшыня Рады БНР: Нашае грамадзтва за мяжой гэта жывы ідэйны арганізм з рознымі аспэктамі жыцьця й дзейнасьці й іх праблемамі. Гэтыя-ж праблемы трэба вырашаць, над імі дыскутаваць, і адзінае мейсца і час дзеля шырэйшага форуму ў гэтай справе - як дагэтуль - мы маем толькі нашыя штодвухгадовыя Сустрючы БПА. У нас ёсьць праблемы арганізацыйныя, узгадаваньня дзяцей і моладзі, праблемы палітычныя, эканамічныя, выдавецкія й іншыя. Пакуль што мы ня можам сабе пазволіць рабіць адумысловыя зьезды дзеля разглядаваньня паасобных праблемаў. Дзеля гэтага мусім знахподзіць мейсца й час на разгляд найбольш актуальных праблемаў на нашых Сустрэчах.

Дакладчык прапанаваў для развагі прысутных такі выхад:

1. Зрабіць абавязкавай прысутбасьць для усіх удзельнікаў Сустрэчы толькі на акадэміі з дакладамі, прамовамі, канцэртам .
2. Адносна дадатковых дакладаў, дыскусіяў, ці працоўных сэсіяў, а таксама іншых імпрэзаў, як экскурсіі, спорт - усе маюць вольны выбар.
3. Зацікаўленыя ў дадатковых дакладах, ці працоўных сэсіях, а таксама ў дадатковых імпрэзах павінны паведаміць аб іх арганізатараў Сустрэчы найпазьней за шэсьць месяцаў да Сустрэчы з паданьнем тэмаў, ці апісаньнем характару Імпрэзы.
4. Арганізатары Сустырэчы пастараюцца даць час і мейсца для

зацікаўленых (магчыма ў розных пакоях у тым самым часе) за выняткам часу на супольны абед і акадэмію. Такім чынам кожны будзе мець змогу прыняць удзел у тым, што яго цікавіць.

Што да арганізацыі Сустрэчы, дык практыка паказала, што ёй займацца мусіць - уключна з укладаньнем праграмы, запросінамі дакладчыкаў і артыстых, адна арганізацыя, ці адно беларускае асяродзьдзе. Практыка паказала, што ўдзел дзвёх, ці болей арганізацыяў у падрыхтоўцы сустрэчы з прычыны далёкай адлегласьці й немагчымасьці разглядаць усе справы на супольных паседжаньнях, рабіць гэтую падрыхтоўку амаль немагчымай. Розныя варункі й абставіны ў розных асяродках, разгляданьне справаў завочна пры рэюдкіх кантактах паштовых, ці тэлефанічных без магчымасьці ўгляду ў масу розных аспэктаў справы - замест вырашаньня справаў, уносяць блытаніну, непаразуменьні й featurнага роду камплікацыі. Калі й далей будзем рабіць падрыхтоўку сустрэчаў завочнымі кантактамі можа наступіць зьнеахвочаньне да сустрэчаў і заняпад іх.

Каб да гэтага не дайшло - трэба справу арганізацыі сустрэчы даваць адной арганізацыі, ці асяродзьдзю, як гаспадару сустрюэчы й даць яму вольную руку ўва ўсіх справах сустрэчы. Урэшце гаспадар сустрэчы ўкладае найбольш працы й нясе найбольшую адказнасьць, дык і належыцца яму свабода ў вырашаньні справаў сустрэчы. Дзе абавязкі, там мусяць быць і правы.

Завяршэньнем працоўнае суботняе праграму была Вячэрня ў БАПЦаркве Сьв. Кірылы Тураўскага.

**Баль Сустрэчы**

Баль пачаўся а 8:30 ў суботу. Заля БР-Г Цэнтру, якая паводле афіцыйнае ацэнкі месьціць 200 асоб аказлася за малой Бяседнікаў было поўна ў залі, калідоры й перад будынкам Цэнтру..Ноч была цёплай але ня парнай. Прыемны вецярок халадзіў разагрэтых скоксмі танцораў, якія ў перапынках ахвотна выбягалі надвор. У залю апрача аркестры прыцягваў багаты й добра сарганізаваны спадарыняй М. Ганько буфют, ды сп. Б. Кіркам бар. Гаспадаром Сустрэчы радасна было бачыць свой беларускі дом перапоўнены сваімі людзьмі. Яны з гордасьцьцю адчувалі болей, як хто іншы, што нас беларусаў шмат, што мы тарантонскія беларусы госьцім сваіх землякоў з розных куткоў паўночна-амэрыканскага кантынэнту ў сябе, у сваёй хаце, а не за чужымі парогамі. А што ў часе танцаў пршлося датыкацца адзін да другіх дык што?! патое-ж і сустрэчы, каб адчуць блізкасьць адных да другіх.! І гэтую бліскасьць свойства, сяброўства мы адчулі! Не дарма, прынамся арганізатарам, на працягу тыдняў усё 10-я

Сустрэча БПА сьніцца. На балі было маса моладзі ня толькі з Канады, але й ЗША. Туалеты бяседнікаў, асабліва дам, як належыцца былі старанныя й шыкоўныя. Іхнія даўгія сукні ўпрыгожвалі жывыя чырвоныя ружы.

**Нядзеля - Сьв. Літургія й супольны абед.**

Пасьля шумнага балю на другі дзень у залі Цэнтру й сьлед па ім зьнік. Зранічкі заля была застаўлена сталамі накрытымі белаымі абрусамі й аквечанымі букецікамі чырвоных ружаў.

У БАПЦаркве адбывалася сьвь Літургія. Адпраўляў яе Яго Высока Праасьвяшчэнства Мітрапаліт Андрэй у саслужэньні Уладыкі Мікалая, а. Васіля Кэндыша, а. М. Мігая. Сьпяваў узмоцнены харыстамі зь іншых асяродкаў хор пад кіраўніцтвам сп. М. Ганька. І нашая царква далёка не магла памесьціць усіх вернікаў.

На **супольным абедзе,** які адбыўся пасьля Багаслужбы, за прэзыдыяльным сталом занялі мейсцы: Мітрапаліт Андрэй, Уладыка Мікалай, Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, а. Васіль Кэндыш, а. М. Мігай, матушка Марыя Войтанка. Абед пачаўся малітвай Яго Праасьвяшчэнства Мітрапаліта Андрэя. Ад Згуртаваньня Беларусаў Канады вітаў шматлікіх гасьцей-удзельнікаў Сустрючы сакратар Галоўнае Управы ЗБК сп. М. Ганько. Прамаўлялі: Яго Праасьвяшчэнства Мітрапаліт Андрэй, Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Уладыка Мікалай. З аднаго боку сяброўская, з другога ўзьнёсла-патрыятычная атмасфэра абеду вылілася ў прыгожы ахвярны учынак.

Успомнены на пачатку гэтае справаздачы партрэт Беларускі, што займаў цэнтральнае мейсца выстаўкі Івонкі Шыманец-Сурвіллы, меў шмат ахвотнікаў на набыцьцё, якія сулілі за яго ладныя грашовыя сумы. Але маладая мастачка вырашыла даць свой твор для таго, хто дасьць найбольшаю суму. якую яна згары прызначыла на газэту «Беларус». Шчасьліўцам, што стаўся собснікам партрэту, быў старшыня ККБК др. Барыс Рагуля, які даў за партрэт $500.00. Удзельнікі абеду вырашылі, каб 10% з гэтае сумы пайшло на БАПЦаркву. А мастачка? Сьвяцілася яна шчасьцен, якое можа даць толькі высокароднасьць й дабро - якасьці, якія яна імкнецца выражаць сваім мастацтвам.

**Урачысты Сход 10-е Сустрэчы.**

У вялізнай аўдыторыі Цэнтральнае Тэхнічнае Школы на рагу Батэрст і Гарбард вуліцаў сабраліся ўдзельнікі 10-е Сустырэчы БАП на Урчыысcты Сход і канцэрт. Пры ўвайходзе ў аўдыторыю кожны зь іх атрымаў істучку з сымбалем 10-е Сустрэчы: Кніга з гэрбам Ф. Скарыны, зь якое «вырастае» папараць і колас, ці інакш: Ад Скарыны праз Купалу й Коласа да нашых дзён, ды датай і месцам Сустрэчы.

А гадзіне 3:30 папаўдні прытухлі лямпы, а на прыгожай сцэне адсланіўся тонучы ў вясёлкавым сьвятле Бел-чырвона-белы сьцаг і Пагоня, а на авансцэне красаваў «юбілейны» з 90-ці ружаў букет.

Др. Б. Рагуля, старшыня Урачыстага Сходу адкрывае яго канадыйскім, адыграным сп-чняй Юліяннай Грыцук на піяніне, Гімнам. Яго Высока Праасьвяшчэнства Мітрапаліт Андрэй узносіць малітву да Бога. У сваім цікавага зьместу ўступным слове, Старшыня Сходу параўноўвае беларуслае грамадзтва й беларускі рух да цягніка, у якім адна частка грамадзтва гуляе ролю рухавіка - «драйвінг форс». І гэты рухавік ня гледзяы на нішто імчыць цягнік наперад. Другая частка грамадзтва - гэта пасажыры. Яны едуць усьлед за рухавіком. Трэцяя частка - гэта тыя, што адсталі ад цягніка, зашыліся, заглохлі, загінулі. А калісь жа за маладосьці (духовай і фізычнай) былі пасажырамі, а то й падкідалі паліва ў рухавік. Старшыня Сходу гаварыў пабеларуску й паангельску.

Тады прамаўляў і вітыаў удзельнікаў Сходу др. Расьціслаў Гарошка, старшыня Галоўнае Упёравыу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня - саарганізатары !0-е Сустрэчы БПА.

Ад Рады Беларускае Народнае Рэспублікі вітаў Урачысты Сход яе Стартшыня др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Слова Старшыні Рады БНР выражала сканцэнтравана сынтэзу значэньня Сустрэчаў БПА, значэньня трох юбілеяў і сынтэзу нашых, як вольнае часткі беларускага народу, абавязкаў перад Бацькаўшчынай: Першае: зрабіць зьместам свайго жыцьця нацыянальныя клічы й прароцтвы Янкі Купалы, ды пераказаць іх сваім патомным.

Ад Прэм'ера Канады Піер Эліёт Трудо, ды ад свайго імя вітаў сябра Фэдэрльнсага Парлямэнту др. (мэдыцыны) Станіслаў Гайдаш. Ад імя Мэра Таронта ды й свайго вітаў сябра Рады Места сп. Вільгэлм Войчук па ангшльску й па ўкраінску.

Аб юбілярах, Янку Купалу й Якубу Коласу гаварыў, як прадставіў яго Старшыня Сходу, хіба найвялікшы крытык і знаўца беларускае літаратуры, майстра жывога слова праф. Антон Адамовіч. Ягоную прамову, за ягоным дазволам, хочам зьмясьціць поўнасьцьцю на іншым мейсцы.

У заключэньні зьвярнулася да ўдзельнікаў Сходу 10-е Сыстрэчы БПА старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады, др. Раіса Жук-Грышкеві. Сустрэчамі БПА, а менавіта 10-ай Сустрэчай, мы выказваем нашу веру ў «народ і край свой» і саміх сябе. Сустрэчамі мы «свой край, сябе ў пашане мец.ь» прымушаем. 10-я Сустрэча - гэта нашая прошча ў Вязынку, гэта наш вянок на прадчасную магілу Янкі Купалы. Гэта песьня хвалы Франьцішку Скарыну, Янку Купалу, Якубу Коласу. гэта нашае

выконваньне запабвету Янкі Купалы:

Паўстань , Народ! Прачніся Беларусе!
Зірні на бацькаўшчыну, на сябе!
Зірні, як вораг хату й зямлю раструсіў,
Як твой наввала злыдняў скарб грабе!

Верым, што 10-я Сустрэча БПА свае мэты й заданьні выканала. А Какі так, дык гэта дзякуючы працы перадусім гаспадароў Сустрэчы - кіраўніцтва й сяброў ЗБК, кіраўніцтву й сяброў БАЗА, абодвух БІНіМ-аў , Згуртаваньню Беларуісаў Штату Ільліной, Беларускай Малдзёжнай Арганізацыі Паўночнае Амэрыкі. Старшыня ЗБК дзякавала ўсім працаўнікам, дакладчткам, прамоўцам, кіраўнікам паасобных аддзелаў працы, мастаком, артыстым. дарадчыкам, нашым павадыром. Шчыра дзякавала прадстаўнікам урадаў: БНР і Канадыйскага Фэдэральнсага, Антарыйскага, Гарадзкога, што віталі Сустрэчу жывым словам, тэлеграмамі і лістамі. Дзякавала за тэлефанічныя прывітаньні Сустрэчы Яго Ексцэленцыі Біскупу Чаславу Сіповічу, Апостальскаму Візыутатару для Беларусаў, і ўсім, што прыслалі прывітальныя лісты. Дзякавала на канец усім удзельнікам Сустрэчы.

Др Янка Запруднік зачытаў для Сходу прыгатаваны ім жа праект Рэзалюцыі 10-ае Сустрэчы БПА, якую Урачысты Сход прыняў, Рэзалюцыя 10-е Сустрэчы БПА надрукавана ў іншым мейсцы.

**канцэрт.**

Куртына адславіла вялічэзную, залітую прыветлівым сьвятлом, сцэну. Канфэрэнсые, сп. Юрка Мазура (старшыня Аддзелу БАЗА ў Дэтройце) паабяцаў уцеху канцэрту, які дае выключна моладзь. Прыгатавала канцэрт старанна др. Ала Орса-Романо. Нажаль, яе цяпер сярод нас няма. Вестка аб раптоўным няшчасьці ў сям'і адклікала ае з Сустрэчы разам зь яе мужам др. Ф. Романо, у Нью Ёрк. Сп. Юрка Мазура мызыкавед, кампазытар падзяліўся з прысутнымі сваім пачуцьцём нястачы сярод нас Асобы, якая на шматлікіх Сустрэчах цешыла нас сваім майстэтрствам і чарам свае асобы - сьв. пам. кампазытара Міколы Куліковіча, якому Сустрэчы абарваліся на восьмай Хвілінай маўчаньня прысутныя ўшанавалі яго сьветлую памяць.

Першым нумарам канцэрту, як хвала Янку Купалу была рэцытацыя ягонага твору: «Свайму Народу» у выкананьні Ніны Запруднік. За ёй на сцэне закалыхаўся з васьмі пар стройных хлапцоў і дзяўчат зь Нью Ёрку й Нью Джэрзі - танец «Чарот» Тады плакала іскрыпка Алёны Кажан. Плавалі купальскія вяночкі васьмі пар танцавальнае групы «гібкіх, як колас» дзяўчат зь Нью Ёрку й Нью Джэрзі. «Ой рана на Йвана...» соладка

разьліваўся сьпеў дуэту сястры й брата Ларысы й Юркі Курылаў. Яны выканалі й ангельдкую песьню «О, Лорд, хвот а морнінг!» і «Лявоніху» М. Багдановіча». Сурвілянкі - Паўлінка і Ганулька (ў ролі вясковага хлопчыка) у сцэнічным абразку «Вёска» насьлядоўвалі залёты амаль прафэсійных танцораў Эвы Пашкевічаснкі й Барыса Куркі. Абразок «Вёска» выканала сцэнічная група беларускае моладзі з Канады пад кіраўніцтвам Эвы Пашкевічанкі..

Сьвежы й жывы, як букет кветак, канцэрт закончыўся танцам «Мікіта» у выкананні танцавальнае групы, што танцавала «Чарот» За крапатлівую працы падрыхтоўкі канцэрту, песень і танцаў. складаем тут сп-ні др. Але Ораса Романо. шчырую падзяку. Жалеем, што ёй не давялося цешыцца вынікамі свае працы й што ведамы ўжо квартэт пад яе кіраўніцтвам і зь яе ўдзелам, з прычыны няшчасьця, ня мог выступіць і цешыць нас сваімі песьнямі.

Пасьля канцэрту Янка Запруднік абвесьціў„ што на 10-ай Сустрэчы БПА сабрана на газэту «Беларус» уключна з $500.00 за партрэт Беларускі болей за $1,000.00, і ад імя Рэдакцыі «Беларуса» падзякаваў ахвярадаўцам.

Урачысты Сход і канцэрт закончыліся агульным адсьпяваньнем гімну «Мы выйадзем шчыльнымі радамі».

Бэры, верасень, 1972 год,

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Старшыня Галоўнае Управы
Згуртаваньня Беларусаў Канады

Гэта было ў верасьні 1972 году, перапісана з архіўных запісаў ЗБК.

---

## ПАМЯЦІ ДОКТАРА БАРЫСА РАГУЛІ
## (1920 - 2005).

Памёр Барыс Рагуля. Доктар мэдыцыны, заступнік Срашыні Рады БНР, старшыня сусьветнай арганізацыі «Канфэрэнцыя Вольных Беларусаў», сябра ўправы Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнубылю ў Беларусі, былы старшыня Каарддынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады (ККБК), Выдавецкага Фонду беларускіх падручнікаў пры ККБК, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва у Канадзе, сябра Згуртаваньня Беларусаў Канады й ахвярны парафіанін БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта.

Родам з Наваградку, памёр др. Барыс Рагуля 21 красавіка, 2005 году ў Лёндане, Онтарыё, Канадзе. Было яму 85 год.

Першы раз сустрэла я сьветлай памяці Барыса Рагулю недзе ў канцы 1945 году ў беларускім лягеры Ватэнштэт, што ў ангельскай зоне Нямеччыны.. Было нейкае сьвята, ці ня Ноны год. За застольнай бяседай зьявіўся незнаёмы жывы, энэргічны малады, як і ўсе мы, чалавек, які заявіў нам: «Чаго вы тут сядзіце ў лягеры, чаму ня йдзеце вучыцца?!» - Мы хочам вучыцца, кажу яму, але немагчыма дастацца на унівэрсытэт. Унівэрсытэты прымаюць перш за ўсё сваіх нямецкіх былых жаўнераў , якія толькі што вярнуліся з вайны.

- «На ўнівэрстцеце ў Марбургу ёсьць мейсцы для беларусаў! Ці хто з вас паехаў бы ў Марбург?» - кажа незнаёмы.

Марбург у амэрыканскай зоне, за граніцай.... Аказваецца, інтэлігэныны, спрытны, харызматычны студэнт мэдыцыны Барыс Рагуля выстараўся на ўнівэрсытэце Марбургу мейсца ня толькі для сябе й сваe жонкі Людмілы, а й 30 мейсцаў для беларусаў.

Я паехала ў Марбург. І так дзякуючы Барысу Рагулі, ягонай дбайлівасьці пра беларускія справы - пра беларускіх студэнтаў, змагла прадаўжаць за мяжой уніэвэрсытэцкія студыі, ды пасьля здабыць прафэсію.

У нашай даволі вялікай, вясёлай студэнцкай арганізацыі, старшынём якое быў заўсёды Барыс Рагуля, былі сябры розных поглядаў і кірункаў. Былі БНР-аўцы - крывічы й БЦР-аўцы - зарубежнікі. Ды розьніцы ў поглядах не перашкаджалі нам ані ў навуцы, у складан.ні экзаменаў, ані ў багатым сяброўскім жыцьці. Усе мы былі беларускімі патрыётамі. Усе мы йшлі пад бел-чыурвона-белым штандарам й старадаўняя крывіцкая Пагоня біла ў сэрцы нашы, біла мячамі, не давала чужынцамі быць і ўсіх нас ядбала наша родная беларуская мова, бо «Міласьцівы Бог» нас, як і Франьцішка Скарыну «з таго языка на сьвет пусьціў». Жыве родная мова, жыве беларуская душа - беларуская нацыя.

Праз два, ці 3 гады прыйшла «вэрунг» рэформа грошаў . З 10-цёх нямецкіх марак зрабілася толькі адна марка . Настаў цяжкі час для нас беларускіх студэнтаў. Ды «Міласьцівы Бог» меў над намі апеку. Газэта «Бацькаўшчына» паведамляе, што ёсць магчымсьць дастаць стыпэндыі з Ватыкану.Толькі трэба ехаць вучыцца на ўнвэрсытэт у Лювэн, у Бэльгіі. Ізноў наш Барыс Рагуля, у паразумленьні з Радай БНР, яе старшынём інж. Міколам Абрамчыкам, у цэнты справы атрыманьня стыпэндыяў Марбурскім студэнтам, ды арганізацыі паездкі ў Лювэн. І так паехалі ў Лювэн амаль

ўсе беларускія студэнты з Марбургу. Засталася ў Марбургу канчаць студыі толькі я, бо была на апошнім годзе дэнтыстыкі, рыхтавалася да выпускных экзаменаў, застаўся й Лявон Трусэвіч, які быў на перадапошнім годзе таго-ж факультэту.

Радыё Лібэртры - «Свабода» . У справах атрыманьня магчымасьці арганізацыі бэзнэраўскай беларускай сэкцыі радыя «Вызваленьньне» - «Свабода» ізноў прычасныя былі беларускія студэнты зь Лювэну, а між імі Барыс Рагуля гуляе ці не адну з галоўных роляў..

ў 1997 годзе перад 22-ой Сэсіяй Рады БНР др. Барыс Рагуля, як заступнік Старшыні Рады БНР едзе з Канады ў Вільню на зьезд Эўрапэйскага Сэктару Рады БНР. Памагае яго арганізаваць й дае на ім справаздачу зь дзейнасьці Рады БНР у Эгзылі. На 22 Сэсіі Рады БНР ў тым-жа 1997 годзе ў Нью Ёрку др. Барыс Рагуля быў перавыбраны як заступнік Старшыні Рады БНР і быў ім да сьмерці.

І так, Дарагі Сябра, шлях Твой змагарны за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі на гэтым сьвеце закончыўся, але дух Твой жыве ў плёнах Твае працы, Тваіх асягненьнях. Жыве ён ў Тваіх дзецях, унуках і нашчадках, якім Ты пакінуў запавет: «Сьцяг свой высока трымай!»

Бывай , Дарагі Барыс ! Вечная Табе Памяць!

Ад імя беларускага грамадзтыва Канады й сябе асабіста выражаю шчырыя спачуваньні жонцы Памерлага спадарыні Людміле, .дзецям - Рагнедзе, Вітаўту, Уладзіміру , Андрею і іхнім сем'ям.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч

За годам год, за стагодзьдзем стагодзьдзе, усё мінае, усё зьмяняецца. !0-я Сустрэча БПА, што адбылася ў 1972 годзе ў Таронта ўслаўляла духовых волатаў беларускага народу Франьцішка Скарыну, Янку Купалу й Якуба Коласа, а на 26-ю Сустрэчу БПА, што таксама адбылася ў Таронта ў 2004 годзе, арганізатары яе вынясьлі із залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтыру партрэты нашых нацыянальных волатаў духу Янкі Купалы, Якуба Коласа й Франьцішка Скарыны...

І куды-ж гэта мы ў 21-м стагодзьдзі ідзём? Ці куды коцімся?....

---

16 травеня, , 2005 — Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Бэры, Канада — Былы Старшыня ККБК

---